**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№45(657)**
**8 лістапада 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Лістапад. Сезон дажджоў.
Photo ByMedia.net

## На беларуска-латвійскай мяжы затрымана самая буйная за апошні час партыя кантрабандных цыгарэт

**2 лістапада на беларуска-латвійскай мяжы затрымана буйная партыя кантрабандных цыгарэт, паведаміў БелПАН памочнік начальніка Полацкага пагранічнага атрада Дзяніс Глебка.**

Паводле яго слоў, памежнікам паступіла аператыўная інфармацыя пра магчымы нелегальны правоз буйной партыі цыгарэт з Беларусі ў Латвію. Днём 2 лістапада сумесна з супрацоўнікамі мытні і транспартнай міліцыі памежнікі на чыгуначнай станцыі ў Полацку ў адным з крытых вагонаў грузавога саставу зносінамі Полацк – Даўгаўпілс знайшлі цыгарэты, схаваныя ад мытнага афармлення.

Пакуль вядома, што пад дровамі ў палетах былі выяўлены некалькі соцень тысяч пачак цыгарэт «Прэм'ер». Яны знаходзіліся ў каробках і былі пакладзены на паддоны, абматаны чорнай поліэтыленавай плёнкай і абкладзены насечанымі дровамі. Дакладны аб'ём кантрабанднай прадукцыі пакуль не вызначаны, невядомы і яго кошт. Устанаўліваюцца асобы, датычныя да правапарушэння.

Глебка асабліва зазначыў, што апошнім часам нелегальная перапраўка цыгарэт у краіны Еўрасаюза актывізавалася. Гэтая партыя – самая буйная за апошні час, затрыманая полацкімі памежнікамі ва ўзаемадзеянні з рознымі сілавымі структурамі.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*



## З 1 снежня ў Мінску будзе забаронена рэалізоўваць пладовыя мацаваныя віны

**З 1 снежня на аб'ектах рознічнага гандлю Мінска будзе забаронена рэалізоўваць пладовыя мацаваныя віны. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Мінгарвыканкама Уладзімір Калтовіч 2 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, у адпаведнасці з рашэннем Мінгарвыканкама № 3399 ад 1 лістапада 2012 года забарона будзе дзейнічаць да 1 лютага, затым можа быць прынята рашэнне пра яе працяг.

Як заявіў Калтовіч, забарона заклікана спрыяць забеспячэнню здаровага ладу жыцця ў сталіцы і барацьбе з алкагалізацыяй насельніцтва. Паводле яго слоў, у Беларусі рэалізацыя спіртных напояў дасягае 12,3 літра на чалавека ў год, тады як бяспечным узроўнем лічыцца 8 літраў.

«Забарона на рэалізацыю пладовых мацаваных він, упэўнены, будзе станоўча ўспрыняты мінчанамі, гасцямі сталіцы, і мы, можа быць, паступова адвучым пэўную катэгорыю асоб ад гэтага напою і пяройдзем да лягчэйшых відаў прадукцыі», — сказаў намеснік старшыні гарвыканкама. Паводле яго слоў, у рознічнай гандлёвай сетцы, як і раней, можна будзе набыць натуральныя пладовыя віны без дабаўлення спірту тых жа вытворцаў, якія вырабляюць пладовыя мацаваныя віны. Натуральныя пладовыя віны наносяць меншую шкоду здароўю, яны меншага мацунку — 9 градусаў.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*



## Па статыстыцы на 10 дзяўчат 8,68 хлопцаў
### Але нараджаецца на 10 дзяўчынак 10,58 хлопцаў

**У Беларусі на 1000 мужчын прыпадае 1152 жанчыны.**

Па дадзеных дэмаграфічнай статыстыкі, на пачатак гэтага года колькасць мужчын у Беларусі склала 4 398 300 чалавек, або 46,5% агульнай колькасці насельніцтва. Тры чвэрці мужчын - гараджане.

У Мінску на пачатак бягучага года налічвалася 861,2 тыс. мужчын, у Гомельскай вобласці - 663,4 тыс., у Мінскай - 661 тыс., у Віцебскай - 560,4 тыс., у Магілёўскай - 506,2 тыс., у Гродзенскай - 494 тыс. чалавек.

Сярэдні ўзрост беларускіх мужчын на пачатак гэтага года склаў 36,9 года. Пры гэтым сярэдні ўзрост мужчын на 5,2 года менш, чым сярэдні ўзрост жанчын.

На 1000 нованароджаных хлопчыкаў у нашай краіне прыпадае 945 дзяўчынак.

*БелТА*

Пастаўскі раён

# Забыць немагчыма

■ Кастусь Александровіч

**Год назад паблізу беларуска-літоўскай граніцы ля хутара Вілейты ў Пастаўскім раёне падчас планавага палёта па ахове мяжы пацярпеў катастрофу новы верталёт "Еўракоптар" французскай вытворчасці.**

Сучасная вінтакрылая машына належыць мясцоваму асобнаму пагранічнаму авіяатраду, якімі ён пераасначаны.У той жудасны вечар загінулі не толькі два члены экіпажа, але і тры маладыя члены здымачнай групы тэлекампаніі Саюзнай дзяржавы. Як і абяцала летась камандванне, іх памяць будзе ўвекавечана. Спачатку на месцы падзення ля ўскрайку леса на полі быў устаноўлены невялічкі абеліск. А ў той сонечны восеньскі дзень ля прасёлачнай дарогі ва ўрачыста-жалобнай абстаноўцы ў прысутнасці роты ганаровай варты і ваеннага духавога аркестра адкрылі помнік-мемарыял у памяць загінуўшых. На кароткую цырымонію з хрысціянскім малебнам прыбылі генералы з кіраўніцтва Пагранкамітэта РБ, прадстаўнікі адміністрацыі раёна і грамадскасці. Прысутныя не хавалі сваіх слёз, калі быў адкрыты помнік на гранітным валуне з шасціканечным крыжам наверсе. Вакол яго расходзяцца, нібы сонечныя прамяні, некалькі дарожак да пяці меншых гранітных камянёў з высечанымі імёнамі загінуўшых пілотаў Ігара Скварцова, Андрэя Пякарскага і журналісткі Юліі Шатэрнік, аператара Віталя Прачкоўскага, вадзіцеля студыі Сяргея Шамалава. Расследванне гэтага авіяздарэння не выявіла віны людзей, да бяды прывёў, хутчэй усяго, збег тэхнічных абставін.

Докшыцкі раён

# Восень – пара для шлюбаў

■ Чэслаў Якубовіч

**З усіх адметных падзей у паўсядзённым жыцці найбольш памятнымі і радаснымі становяцца дні стварэння сем'яў, калі яны шчаслівыя і доўга жывуць у згодзе і каханні.**

Да гэтага года ў Тумілавіцкім сельсавеце, што ў Докшыцкім раёне, існавала традыцыя віншаваць такіх юбіляраў, якія тут даўно бралі шлюб. Але сёлета тут вырашылі зрабіць такое свята ў абрадавай зале больш масавым і з дапамогай раённага ЗАГСа высветлілі, што на падведамаснай тэрыторыі жывуць 17 вясковых сем'яў з працяглым сямейным стажам. На запрашэнне адзначыць разам такое калектыўнае вяселле-юбілей з іх адгукнулася 12 пар рознага ўзросту. У вызначаны восеньскі дзень сюды прыехалі ўсхваляваныя, але радасныя "жаніхі і нявесты". Шлюб самай паважанай пары Ніны Дзянісаўны і Аркадзія Іванавіча Пяцько быў зарэгістраваны паўстагоддзя назад, у далёкім ужо 1962 годзе. Але яны па-ранейшаму хваляваліся, калі іх пад гукі знакамітага вальса Мендэльсона запрасілі першымі распісацца ў ганаровай кнізе і пацвердзіць сваё "залатое вяселле" роспісам, святочным вальсам і пацалункам. І астатнім парам было хораша на душы, калі прысутныя і родныя, блізкія віншавалі іх памятнымі падарункамі, вершамі і песнямі. Усім сем'ям, якія адзначылі свае сярэбраныя, фарфоравыя, каралавыя, рубінавыя вяселлі, прафкам сельгаспрадпрыемства "Таргуны" таксама ўручыў святочныя сувеніры. Пасля афіцыйнай рэгістрацыі і забаўляльнай праграмы сямейныя пары пакружыліся ў сумесным сямейным вальсе, сфатаграфаваліся на памяць і яшчэ доўга гаманілі пра пражытое за агульным святочным сталом з шампанскім і салодкімі прысмакамі.

Полацкі раён

# Абакралі ў ... храме

■ Станіслаў Раманчук

**У наш час нідзе няма ўпэўненасці ў людзей у поўнай сваёй бяспецы, паўсюдна можна трапіць і сярод людзей у непрыемнасць.**

Вось і ў старажытным Полацку днямі зафіксавалі крыміналнае злачынства нават у хрысціянскім храме. У новы гарадскі касцёл прыйшла ў той дзень на Богаслужэнне 20-гадовая прыхаджанка. Калі дзяўчына на нейкі момант пакінула без нагляду падчас прыняцця прычасця сваю дамскую сумачку, гэта заўважыў злачынца. Ён не пабаяўся гневу Госпада і выцягнуў у святым месцы з партманэ 350 тысяч рублёў. Прыйшлося пацярпелай з гэтай нагоды звярнуцца з заявай у гаррайаддзел міліцыі. Да гонару супрацоўнікаў праваахоўнага органа яны спрацавалі прафесійна і аператыўна. Па гарачых слядах следчыя вылічылі і затрымалі зламысніка, якім аказаўся 49-гадовы мясцовы беспрацоўны. У мінулым ён ужо меў непрыемнасці з законам, быў судзімы, а зараз апусціўся, не мае пастаяннага месца жыхарства. Цяпер бомж, касцельны злодзей, мае ўсе шанцы неўзабаве зімаваць зноў у турме. Дарэчы, і штогадовая амністыя такой катэгорыі грамадзян часта не дасягае сваёй гуманнай мэты. З сярэдзіны лета на Віцебшчыне з месцаў пазбаўлення волі вярнуліся дамоў па аб'яўленай амністыі каля паўтысячы нашых землякоў. Аднак з іх з паўсотні катэгарычна адмовіліся ісці працаваць і выбралі паразітычны лад жыцця. Больш дваццаці суайчыннікаў паспелі здзейсніць новыя злачынствы, так толкам і не паспеўшы надыхацца паветрам свабоды.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 08.11.12 | | | | Пятніца 09.11.12 | | | | Субота 10.11.12 | | | | Нядзеля 11.11.12 | | | | Пд.12. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +3 | +7 | +6 | +7 | +6 | +5 | +2 | +1 | +1 | +5 | +3 | +5 | +5 | +5 | +5 | +7 |
| Ціск | 739 | 737 | 737 | 738 | 738 | 739 | 742 | 745 | 748 | 749 | 749 | 748 | 746 | 744 | 743 | 743 | 742 |
| Вільготнасць | 82 | 92 | 88 | 93 | 91 | 91 | 86 | 85 | 88 | 86 | 79 | 89 | 87 | 89 | 87 | 93 | 92 |
| Вецер м/сек | 4 З | 3 Пд-З | 4 З | 6 З | 6 З | 5 З | 5 Пн | 2 Пн-У | 1 Пд | 2 Пд | 4 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 5 Пд | 5 Пд |

# Аб самым надзёным

## Лукашэнка падпісаў закон аб зменennях у законе «Аб пенсійным забеспячэнні»

■ БелТА

**Як растлумачылі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, новы закон накіраваны на прывядзенне норм закона «Аб пенсійным забеспячэнні» ў адпаведнасць з указам Прэзідэнта ад 18 сакавіка 2012 года нумар 136 «Аб мерах па ўдасканаленню пенсійнага забеспячэння грамадзян» (уступіў у сілу з 1 кастрычніка бягучага года).**

Аляксандр Лукашэнка падпісаў закон «Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні». Дакумент афіцыйна апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Закон прыняты палатай прадстаўнікоў 2 кастрычніка бягучага года, адобраны Саветам Рэспублікі 10 кастрычніка.

Як растлумачылі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, новы закон накіраваны на прывядзенне норм закона «Аб пенсійным забеспячэнні» ў адпаведнасць з указам Прэзідэнта ад 18 сакавіка 2012 года нумар 136 «Аб мерах па ўдасканаленню пенсійнага забеспячэння грамадзян» (уступіў у сілу з 1 кастрычніка бягучага года).

Гэтым указам уведзены дзве навацыі.

Першая прадугледжвае прагрэсіўнае павелічэнне «прэміі» за работу без атрымання пенсіі пасля дасягнення агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту. Гэта навацыя трансфармуецца ў артыкул закона, у адпаведнасці з якім за першы поўны год неатрымання пенсіі яна будзе павялічана на 6% заработку, які прымаецца для яе вылічэння, за другі — на 8%, за трэці — на 10%, за чацвёрты — на 12%, за пяты і кожны наступны год — на 14%. За работу без атрымання пенсіі менш, чым за поўны год, павелічэнне за кожныя поўныя два месяцы такой работы складзе 1 працэнт заработку.

Другая навацыя ўказа ўстанаўлівае адзіны падыход да прымаемых для разліку пенсіі перыядаў дзейнасці (з выплатай страхавых узносаў і без выплаты). Перыяды з выплатай страхавых узносаў уключаюцца ў стаж і ўлічваюцца пры разліку заработку. Аналагічны падыход прадугледжаны для перыядаў дзейнасці без выплаты ўзносаў (такіх як ваенная служба, вучоба, догляд дзяцей і іншых). Пры ўключэнні ў стаж яны таксама будуць улічвацца і пры разліку заработку, прычым з аднолькавым умоўным даходам — 40 працэнтаў сярэдняй заработнай платы работнікаў у рэспубліцы ў адпаведных месяцах. Такія змяненні ўнесены ў артыкулы закона, што рэгулююць парадак вызначэння заработку пры вылічэнні працоўных пенсій. Як растлумачылі ў Мінпрацы і сацабароны, да 1 кастрычніка 2012 года пры вызначэнні заработку для вылічэння пенсіі ўлічваліся толькі перыяды работы з выплатай узносаў. У выніку аднолькавыя з пункту гледжання грамадскай значнасці і выканання падобных функцый перыяды дзейнасці без выплаты страхавых узносаў ацэньваліся ў пенсіях парознаму: ад 10% абмежаванага заработку да 400%.

Паводле слоў спецыялістаў, унесены змяненні ў артыкул закона, які рэгулюе пытанні выплаты пенсіі па даверанасці і афармлення даверанасці. Яны прыняты ў мэтах выканання рашэння Канстытуцыйнага суда ад 6 лістапада 2008 года «Аб тэрміне дзейнасці даверанасці на атрыманне грашовых сродкаў з укладу (дэпазіту) фізічнай асобы, адкрытага ў банку, на які пералічваецца пенсія (дапамога)». Прадугледжваецца размежаванне тэрміну дзейнасці даверанасці ў залежнасці ад спосабу атрымання пенсіі: даверанасць на атрыманне пенсіі праз арганізацыі паштовай сувязі і арганізацыі па дастаўцы пенсій (спецыяльная даверанасць) можа быць выдадзена на тэрмін не больш за адзін год; даверанасць на атрыманне сум пенсій з рахунку грамадзяніна ў банку, на які пералічваецца яго пенсія, можа быць выдадзена на тэрмін да трох гадоў. Гэты тэрмін вызначаны артыкулам 187 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

## Дзень за днём

**Супярэчнасці паміж Масквой і Мінскам наконт далейшых паставак нафты толькі ўзмацніліся. Акрамя МВФ для Беларусі вельмі цяжка склаліся перамовы і з Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС аб выдзяленні 4-га траншу крэдытаў на 440 млн. $. Банкаўскую сістэму Беларусі ахапіў крызіс рублёвай ліквіднасці. Праз 4 гады беларусы будуць плаціць 100 % за спажыванне электраэнергіі. Рэальныя памеры пенсій у верасні зменшыліся яшчэ на 1,3 %. У Беларусі зарэгістравалі афіцыйна 200 тысяч алкаголікаў, а больш мільёна чалавек моцна злоўжываюць спіртнымі напоямі. Пакуль адклалі пераўтварэнне руху "Белая Русь" у правячую партыю.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ізраіль.** На працягу трох тыдняў армія краіны правіла сумесна з ЗША буйнейшыя ў гісторыі ваенныя вучэнні "Суровы выклік 2012", паказала моц абароны супраць ракет.

**Польшча.** Бюро нацыянальнай бяспекі аб'явіла аб укладанні 300 млн. $ на ўзмацненне амерыканскай сістэмы ПРА, каб лепей абараніцца ад "шантажу з боку Расіі".

**Грузія.** Парламент краіны вярнуў грузінскае грамадзянства лідару кааліцыі Бідзіне Іванішвілі, ён перамог на парламенцкіх выбарах і стане новым прэм'ер-міністрам.

**Расія.** Міністэрства энергетыкі РФ заявіла, што Беларусь спыніла толькі 6 кастрычніка экспарт растваральнікаў, не выконвае абавязацельствы, не пастаўляе паліва з расійскай нафты.

**Люксембург.** На сустрэчы міністраў замежных спраў ЕС Еўрасаюз яшчэ на адзін год прадоўжыў дзеянне санкцый супраць шэрагу беларускіх чыноўнікаў і кіраўніка Беларусі.

**ЗША.** Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў рост эканомікі за месяц склаў яшчэ 0,4 %, пачалося рэкорднае будаўніцтва адразу 872 тысяч новых жылых дамоў і рост прадаж.

**Італія.** Да 6 гадоў турмы прыгаварыў суд групу вучоных-сейсмолагаў, якія не папярэдзілі насельніцтва пакінуць жылыя дамы перад магутным землятрусам у горадзе Аквіла.

**Фінляндыя.** Ахова прэм'ер-міністра Юркі Катайнена прадухіліла ў горадзе Турку спробу нападзення на яго з нажом невядомага зламысніка на перадвыбарным мерапрыемстве.

**Расія.** Кампанія "Раснафта" стала буйнейшай у свеце па ўзроўні здабычы нафты і яе запасах пасля набыцця пакета акцый брытанскай ТНК-ВР за 61 млрд. долараў.

**Куба.** На выбарчым участку ў Гаване прагаласаў 86-гадовы Ф. Кастра, які доўга не з'яўляўся на людзях і пайшлі чуткі аб значным пагаршэнні стану здароўя камандантэ.

**Украіна.** Адвакаты расійскага апазіцыянера Л. Разважаева заявілі, што яго ў Кіеве скралі спецслужбы РФ і катаваннямі выбілі з яго яўку з павіннай і абвінавачванні супраць Грузіі

**ЗША.** Сусветна вядомы часопіс Newsweek аб'явіў, што з 2013 года не будзе выходзіць болей на паперы, а пераходзіць на працу ў электронным рэжыме анлайн у Інтэрнеце.

**Канада.** Перамовы паміж босамі мацнейшай хакейнай лігі свету НХЛ і прафсаюзам ігракоў зайшлі ў тупік з-за зарплат і лакаўт прадоўжыцца на нявызначаны тэрмін.

**Індыя.** Прэм'ер-міністр Аўстраліі Джулія Гілард падчас наведвання мемарыялу Махатму Гандзі ў туфлях на шпільцы зрабіла некалькі крокаў і з кур'ёзам павалілася чарговы раз.

**Грузія.** Для прыцягнення турыстаў мэрыя горада Батумі адкрыла вежу-фантан вышынёй 25 метраў, замест вады раз у тыдзень б'е вінаградная гарэлка (чача) на працягу 15 хвілін.

# Да лістападаўскіх свят Беларуская чыгунка ўводзіць больш за 30 дадатковых цягнікоў




■ Навіны Полацка

**Больш за 30 дадатковых цягнікоў уводзіцца Беларускай чыгункай спецыяльна да лістападаўскіх свят з 1 па 12 лістапада.**

Падчас лістападаўскіх свят, а менавіта з 1 лістапада па 12 кастрычніка, на найболей папулярных маршрутах пасажыры не адчуюць недахопы цягнікоў дзякуючы ўводзінам дадатковых трох дзясяткаў цягнікоў. Унутрырэспубліканскі накірунак атрымае больш дадатковых цягнікоў на маршруты Брэст-Мінск і Мінск-Брэст.

Павелічэнне колькасці пасажыраў не стане непрыемнай нечаканасцю для Беларускай чыгункі, якая, дарэчы, паставілася з увагай да магчымых праблем, і звярнулася да супрацоўніцтва з Расійскай чыгункай у пытанні міжнароднага злучэння. Больш цягнікоў міжнароднага забеспячэння дастануцца маршрутам з Брэста і Мінска ў Маскву і па зваротным кірунку.

Пасажырам будзе лягчэй дабірацца ў госці і дахаты, а падарункі на святы набываць заўсёды трэба загадзя, тым больш, калі ў спісе пажаданняў ёсць прылада алмазны - такія прадметы трэба набываць загадзя і падыходзіць да іх выбару грунтоўна.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Нягледзячы на ўсе намаганні ўрада Беларусі, на сярэдзіну кастрычніка ў краіне спажывецкія цэны выраслі яшчэ на 17,1 %, летась быў іх сусветны "рэкорд" на 108,7 %.

**Горкі.** Праз некалькі тыдняў пасля пампезных "Дажынак" жыллёвыя пакоі ў новым інтэрнаце для студэнтаў БСГА пакрыліся цвіллю з-за спешкі і браку будаўнічых работ.

**Мінск.** Экс-кандыдат у прэзідэнты Д. Ус спрагназаваў у Беларусі напрыканцы 2013 года моцны фінансавы крызіс, цяжкасці ў эканоміці і нават датэрмінова прэзідэнцкія выбары.

**Барысаў.** З мэтай выратавання ад гібелі стратнае ААТ "Барысаўдрэў" урад Беларусі вырашыў далучыць прадпрыемства да новага буйнога холдынга "Пінскдрэў".

**Салігорск.** Сітуацыя блізкая да панікі назіралася ў 100-тысячным горадзе пасля адключэння без папярэджання падачы халоднай і гарачай вады з-за сур'ёзнай аварыі.

**Мінск.** Прэс-сакратар МЗС РБ А. Савіных заявіў аб адмове ад парагаднення з Польшчай аб прыгранічным руху грамадзян з-за быццам антыбеларускай палітыкі палякаў.

**Баранавічы.** Адразу чатыром прадстаўнікам Міністэрства адукацыі Польшчы адмовілі без тлумачэння прычын ад удзелу ў ІІ форуме польскамоўнай адукацыі і не далі віз.

**Гродна.** Яшчэ на месяц прадоўжылі крымінальную справу супраць карэспандэнта польскай "Газеты выборчай" А. Пачобута за быццам паклёп у артыкулах на А. Лукашэнку

**Ліда.** У баку для смецця сярод адыходаў знайшлі ў поліэтыленавым пакеце труп толькі што нованароджанага хлопчыка, якога кінула маці, памірацць неведомая парадзіха-нелюдзь.

**Самахвалавічы.** Пад суд па крымінальнаму артыкулу пойдуць 9-класнік і 17-гадовы беспрацоўны, якія разам з вучнем 6 класа абакралі газетны кіёск на 1000 долараў.

**Мінск.** А. Лукашэнка нават пабажыўся, што ягоны малы пазашлюбны сын Коля не стане прэзідэнтам Беларусі, і таксама пакляўся, што ніколі не думаў пра падобныя перспектывы.

**Ганцавічы.** На падпітку 27-гадовы настаўнік Хатыніцкай СШ стаў катаць на аўто вучняў, урэзаўся ў дрэва, у выніку ДТЗ загінуў 11-класнік, кіроўца і адзін вучань былі паранены.

**Мінск.** Усе сеансы вядомага псіхатэрапеўта А. Кашпіроўскага ў сталіцы адмянілі, хоць ён вельмі хваліў публічна існуючыя ў Беларусі парадкі з часоў СССР, але не атрымаў дазвол.

**Бяроза.** Пасля адмовы ў прадастаўленні надомнага абслугоўвання разззлаваны 78-гадовы пенсіянер абліў бензінам старшыню сельсавета і спрабаваў няўдала яго падпаліць.

**Мінск.** Пасля няўдачы летам на Алімпіядзе ў Лондане толькі 4 дзяржтрэнеры з 28 прайшлі пазачарговую атэстацыю, з большасцю спецыялістаў кантракты не будуць прадоўжаны.

# Бюджэт пражытачнага мінімуму будзе павышаны

■ БелТА

**Пастановай Савета Міністраў зацверджаны бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах у цэнах верасня 2012 года ў разліку на адзін месяц. Перыяд дзеяння гэтых сацыяльных нарматываў - з 1 лістапада 2012 года па 31 студзеня 2013 года.**

Бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва з лістапада складзе Br 880 тысяч 30 рублёў

Новы БПМ павышаны на 4,3% да нарматыву, які дзейнічае з 1 жніўня па 31 кастрычніка (843 тыс. 870 рублёў).

Для працаздольнага насельніцтва БПМ устаноўлены памерам Br963 тыс. 130, для пенсіянераў - Br727 тыс. 250, для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў - Br749 тыс. 950, для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў - Br916 тыс. 310, для дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў - Br994 тыс. 850, для дзяцей-студэнтаў - Br884 тыс. 100 рублёў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Адразу ў 16 раёнах вобласці ў 86 калгасах узніклі ў кастрычніку даўгі па выплаце жнівеньскіх зарплат вяскоўцам на 27 мільярдаў рублёў, у "лідарах" Мёрскі, Глыбоцкі, Полацкі раёны.

**Докшыцы.** Пераможца парламенцкіх выбараў па мясцовай акрузе 63-гадовы Уладзімір Андрэйчанка зноў стаў спікерам Палаты прадстаўнікоў на безальтэрнатыўнай аснове.

**Бешанковічы.** Ля вёскі Ульянаўка пачалі будаўніцтва новага маста праз раку Улла, яго запуск у эксплуатацыю намечаны на 2014 год, калі запрацуе і ўзводзімая Полацкая ГЭС.

**Віцебск.** З пачатку года ў вобласці колькасць працаздольнага насельніцтва, занятага ў эканоміцы, зменшылася яшчэ на 17 тысяч чалавек, яны з'ехалі на працу ў асноўным у РФ.

**Паставы.** За зрыў графіку паставак свініны Віцебскі мясакамбінат прад'явіў штрафныя санкцыі пад 300 млн. рублёў гаспадаркам раёна "Камайскі-агра" і "Дунілавічы-агра".

**Лёзна.** Мясцовая райгазета "Сцяг Перамогі" папракнула землякоў-будаўнікоў, якія кінулі радзіму і паехалі працаваць за вялікія грошы за граніцу, хоць там яны гастарбайтары.

**Глыбокае.** Зборам макулатуры ў прамысловых маштабах занялася сям'я Ганчаронкаў з райцэнтра і з пачатку года сабрала яе больш 150 тон для фірмы "Румб" з Мінска.

**Наваполацк.** Горад упрыгожыла новая скульптурная кампазіцыя ў гонар юнацтва, работа земляка, скульптара Д. Аганава – на камяні сядзяць закаханыя хлопец з дзяўчынай.

**Орша.** У сувязі з адсутнасцю складу злачынства Следчы камітэт спыніў справу супраць экс-дэпутата Вярхоўнага Савета СССР М. Петрушэнкі за абразу ўлад у Інтэрнэце.

**Верхнядзвінск.** За паўторнае браканьерства і вылаў сеткамі 10 кг рыбы суд пакараў беспрацоўнага жыхара раёна пазбаўленнем волі на 1 год і 6 месяцаў і буйным штрафам.

**Сянно.** Пад выглядам продажу бульбы ў дом 80-гадовай пенсіянеркі зайшоў 54-гадовы, раней судзімы бомж, звязаў, пагражаючы нажом, забраў 900 тысяч, але быў затрыманы.

**Віцебск.** Працяглы час прадпрыемства "Віцебскія дываны" не зможа запоўніць вакансіі грузчыкаў, хоць і прапануе ім заробкі 2,8 млн. рублёў у месяц, у горадзе не хапае і ўрачоў.

**Наваполацк.** Для ўдзелу ў рэспубліканскім конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні "Халі-хало" 15-17 лістапада журы з 55 прэтэндэнтаў адабрала 39 юных спевакоў.

**Орша.** Аршанка Таццяна Шаракова заваявала залаты медаль чэмпіёнкі Еўропы па велатрэку ў шматбор'і з 6 дысцыплін і "бронзу" ў камандней гонцы праследвання.

**Полацк.** Мясцовы Нацыянальны музей-запаведнік атрымаў спецыяльную прэмію "Лепшы рэгіянальны музей" на І-м нацыянальным форуме "Музеі Беларусі" ў Гродне.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Што там у Быхаве, які пераняў ад Глыбокага эстафету Дня беларускага пісьменства і друку?

## На Быхаўскі замак выдзелена 2 мільярды рублёў. Патрэбна 100 мільярдаў. Рамонт пачнецца да Дня беларускага пісьменства.

**У Быхаве збіраюцца распачаць рамонт мясцовага замка да Дня пісьменства, якое ў 2013 годзе пройдзе ў гэтым райцэнтры.**

Гэта помнік архітэктуры 16–17 стагоддзяў, адзінае замкавае збудаванне, што ацалела ва ўсходняй Беларусі.

Паводле афіцыйнай інфармацыі, пакуль на падрыхтоўку да кансервацыі выдзелена два мільярды рублёў.

«Задача стаіць, каб частку рэстаўрацыі пачаць у 2013 годзе, нейкія элемэнты аднаўлення паказаць да Дня пісьменства.


Замак у Быхаве. Сучасны стан.


Замак у Быхаве. Рэканструкцыя.

Два мільярды для такога замка – нязначная сума. Мы вядзем перамовы, і ёсць разуменне і падтрымка з боку міністра культуры пра тое, што будзе разглядацца пытанне пра дадатковае фінансаванне», – цытуюць афіцыйныя крыніцы абяцанне начальніка ўпраўлення Магілёўскага аблвыканкаму Анатоля Сынкаўца.

Заяўляецца, што цалкам рэканструкцыю Быхаўскага замка плануецца завяршыць да 2018 года.

У раённым аддзеле архітэктуры і будаўніцтва ў пачатку кастрычніка ўдалося даведацца, што на рэканструкцыю помніка на сённяшні дзень неабходна блізу 100 мільярдаў рублёў.

Быхаўскі замак узвялі як абарончае збудаванне ў першай палове сямнаццатага стагоддзя. Належаў ён гетману Вялікага Княства Літоўскага Яну Хадкевічу. Потым ім завалодалі Сапегі.

Цяпер занядбалая цытадэль узвышаецца па-над крутым схілам абарончага рова. З акон відаць шырокі дняпроўскі поплаў. Акрамя самога замка, пакрысе разбураюцца і збудаванні вакол яго. Напаўразбуранай стаіць замкавая вежа.

Доўгі час у мурах замка размяшчаліся розныя вытворчасці. Калі будынак ужо пуставаў, здарыўся пажар, які знішчыў частку даху. Пасля гэтага разбурэнне помніка пачалося больш інтэнсіўна. Там, дзе няма даху, будынак зарастае маладымі дрэўцамі.

*Радыё Свабода*

# Эколагі заклікаюць людзей адмовіцца ад падкормлівання качак і лебедзяў на вадаёмах



**Як нагадаў дырэктар грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» Віктар Фянчук, восенню з надыходам халадоў і цяжкасцяў у пошуку корму вадаплаўныя птушкі ляцяць зімаваць у цёплыя краіны. Тыя, хто падкормлівае гусей, лебедзяў і качак, прымушаюць іх змяніць паводзіны і адмовіцца ад міграцыі.**

Яшчэ больш небяспечна тое, што птушкі пачынаюць адрозніваць чалавека, становяцца залежнымі ад яго, развучваюцца шукаць корм самастойна.

Фянчук адзначыў, што цяпер вадаплаўныя птушкі размеркаваны па вадаёмах Беларусі раўнамерна. Птушкі, якія зімой змянілі свае міграцыйныя паводзіны, як правіла, збіраюцца на тых участках рэк і азёр, якія з-за нейкіх прычын не замярзаюць, напрыклад каля Белазёрскай ці Новалукомльскай ГЭС. Акрамя таго, качкі і лебедзі, якія засталіся ў Беларусі, часта прылятаюць на зімоўку ў буйныя гарады — Мінск і Брэст, дзе лягчэй знайсці корм.

Паводле слоў спецыяліста, зімой падкормліваць птушак трэба толькі пры рэзкім падзенні тэмпературы да мінус 15 і ніжэй градусаў, а таксама пры замярзанні ўсіх вадаёмаў.

Як адзначыў Фянчук, смяротнасць птушак зімой з'яўляецца самай вялікай з прычыны больш суровых кліматычных умоў, аднак паміраюць птушкі не ад голаду, а часцей за ўсё з-за хвароб ці траўм, нанесеных чалавекам.

*БелаПАН*

# 5 лістапада ва ўсім свеце праводзілася акцыя «Станем за журналістыку!»

**Яна ладзіцца ўжо пяты год запар з ініцыятывы Міжнароднай федэрацыі журналістаў (IFJ) і Еўрапейскай федэрацыі журналістаў (EFJ).**

Міжнародныя арганізацыі заклікаюць сваіх партнёраў і калег у гэтыя дні надаць асаблівую ўвагу барацьбе за правы журналістаў, паляпшэнне ўмоваў іх працы, супраць палітычнага і камерцыйнага ціску на прэсу, фізічнага гвалту і г.д. Акцыя «Станем за журналістыку» мае таксама засведчыць ролю журналісцкіх арганізацый у справе павышэння якасці журналістыкі.

На працягу цэлага тыдня журналісты свету ладзяць акцыі пратэсту, сяброўскія сустрэчы, прэзентацыі, семінары, якія маюць прыцягнуць увагу грамадскасці да сваіх найбольш надзённых праблем.

У еўрапейскім маштабе сёлета найбольш трывожнай лічыцца сітуацыя ў Турцыі, дзе за кратамі ўтрымліваюць каля 60-і журналістаў. Аднак, безумоўна, кожны рэгіён найперш канцэнтруецца на праблеме, важнай менавіта для яго.

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" як асацыяваны сябра МФЖ і ЕФЖ далучалася да акцыі на працягу ўсіх гадоў яе існавання. БАЖаўцы праводзілі тэматычныя "круглыя сталы", ладзілі арыгінальныя перформансы ў падтрымку свабоды слова ў Мінску і рэгіёнах, выступалі з заявамі, рыхтавалі тэматычныя слайд-шоў і г.д.

Сённяшняя сітуацыя, на думку арганізацыі, вымагае супольных дзеянняў па двух асноўных накірунках: абароне нашага калегі Андрэя Пачобута, які знаходзіцца пад крымінальным пераследам, і ўратаванне часопіса "Arche-Пачатак", якому пагражае закрыццё.

ARCHELP!

Але праблем у беларускай журналістыкі, безумоўна, значна больш. І за нас іх ніхто не вырашыць.

Мы заклікаем усіх сваіх калег далучацца да акцыі, якая не абмяжоўваецца адным днём ці тыднем. Публікуйце матэрыялы, адпраўляйце лісты ў абарону сваіх калег, збірайцеся і абмяркоўвайце, як пастаяць за свае правы.

Станем за журналістыку разам!

# З новага года рэзка вырастуць акцызы на паліва, алкаголь, цыгарэты

**Ад 1 студзеня 2013 стаўкі акцызаў на тытунёвыя вырабы будуць павялічаныя ў 1,5–3,5 раза.**



На алкаголь стаўкі акцызаў з 1 студзеня 2013 года будуць павялічаны на 11,8-61,6%. Стаўкі акцызаў на аўтамабільны бензін і дызельнае паліва з 1 студзеня 2013 года ўзрастуць у сярэднім на 20%.

Адпаведныя змены ўносяцца ў Падатковы кодэкс.

Гэта прывядзе да росту продажных цэнаў паліва, алкаголю, тытуню.

*Паводле БелТА*

# З 2014 года на Беларусь не будуць распаўсюджвацца ільготы АСП

**Еўрапейская камісія апублікавала вынікі перагляду Агульнай сістэмы прэферэнцый, у тым ліку новы спіс краін, прадукцыя якіх можа пастаўляцца ў ЕС па ільготных або нулявых імпартных тарыфах.**

Са спісу выключаныя дзясяткі краін і тэрыторый, якія ўжо маюць іншыя гандлёвыя пагадненні з ЕС, а таксама 20 краін, якія Сусветны банк пералічыў як краіны з эканомікамі высокіх даходаў ці даходаў у вышэйшым сегменце сярэдняга.

Паводле перагледжанай сістэмы, якая пачынае дзейнічаць з 1 студзеня 2013 года, прэферэнцыі будуць прадастаўляцца 89 краінам, у тым ліку Украіне, Грузіі, Арменіі, Азербайджану, многім краінам Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі.

А вось Беларусі і Расіі палёгкаў больш не будзе, бо гэтыя краіны выйшлі з катэгорыі бедных.

*Паводле прадстаўніцтва ЕС у Беларусі.*



**Кліменцій Кожан,**
*м. Германавічы.*

# Зоська Верас

## *Да 120-годдзя з дня нараджэння*

**Заканчэнне.**
*Пачатак у №42 (654), №44 (656).*

У 1985 годзе выдавецтва "Юнацтва" выпусціла невялікі зборнік Зоські Верас "Каласкі". У ім сабраныя творы розных жанраў: вершы, апавяданні, лірыка-філасофскія абразкі (імпрэсіі). Уступ да зборніка напісаў Ніл Гілевіч, а кароткі біяграфічны нарыс пад назвай "Адданасць" – Янка Саламевіч. Большасць твораў Зоські Верас параскіданыя па розных беларускіх выданнях, пачынаючы ад "Нашай Нівы".

Зоська Верас сябравала з Надзеяй Шнаркевіч. Па словах Галіны Войцік, гэтыя дзве жанчыны ўзяліся за справу, якой не пацікавіўся ніхто з маладзейшых. Яны пачалі збіраць матэрыялы аб Віленскай беларускай гімназіі. Ім прыслалі свае ўспаміны былыя выпускнікі гімназіі М. Маслоўская, М. Пецюкевіч, Я. Шутовіч, Я. Багдановіч, С. Паўловіч, прыслалі фатаграфіі, пасведчанні аб "матуры" ці заканчэнні класа. З гэтых матэрыялаў быў аформлены альбом Віленскай беларускай гімназіі – першая спроба захаваць гісторыю славутай навучальнай установы.

Зоську Верас наведвалі многія віленскія беларусы: М. Маслоўская, Ж. Казлоўская, З. Каўшанка, Я. Шутовіч, Я. Багдановіч, А. Клімовіч, П. Сергіевіч. Пазней маладзейшыя: А. Аблажэй, Х. Балаховіч, В. Стэх, М. Санько і іншыя. У "Лясной хатцы" ўзнікла ідэя стварэння першай у Літве беларускай арганізацыі "Сябрына". Клуб аматараў народнай творчасці пад гэтай назвай быў зарэгістраваны ў 1988 годзе.

Паэты С. Панізнік, Р. Барадулін, Д. Бічэль-Загнетава, У. Скарынкін і іншыя прысвячалі Зосьцы Верас вершы, мастакі малявалі яе партрэты, тэлебачанне здымала аб ёй фільмы. Напрыканцы жыцця Зоська Верас дачакалася заслужанага прызнання, хоць ніколі не шукала ні славы, ні ўдзячнасці.

На працягу дзесяці гадоў (1980-1990) у час канікулаў і летняга адпачынку я працаваў у архівах і бібліятэках Вільні, збіраў матэрыялы для кнігі "Памяць. Шаркоўшчынскі раён". Быў удзячны Зосьцы Верас, Лявону Луцкевічу і Галіне Войцік за дапамогу ў зборы патрэбных матэрыялаў. Яны добра ведалі беларускія матэрыялы ў архівах і бібліятэках Вільні, падказвалі, дзе і што шукаць. Лявон Луцкевіч вазіў мяне па беларускіх мясцінах Вільні. Гэтыя вандроўкі па Вільні пазнаёмілі мяне з багатай беларускай культурай у Літве. Прыязджаючы ў Вільню, я не мінаў гасцінную "Лясную хатку" Зоські Верас. Яна збірала ў гэты час матэрыялы аб заслужаных людзях у беларускай культуры, але забытых ці малавядомых. Зоська Верас задумала тады стварыць "Партрэты віленчукоў". Яе працу прадоўжыў Лявон Луцкевіч. Ён падрыхтаваў 50 партрэтаў беларускіх дзеячаў, жыццё і творчы шлях якіх быў цесна звязаны з Вільняй. Пасля смерці Лявона Луцкевіча ў 1997 годзе гэтую справу прадоўжыла Галіна Войцік. Яна напісала апошні, 51-ы, "партрэт віленчука" – партрэт Лявона Луцкевіча.

Сваю "Лясную хатку" Зоська Верас ператварыла ў сапраўдны музей-архіў: многія тысячы лістоў, розныя дакументы, успаміны, рэдкія кнігі, творы беларускіх мастакоў, альбомы і многае іншае. Упершыню я пазнаёміўся тут з гісторыяй Віленскай, Радашковіцкай, Навагрудскай, Нясвіжска-Клецкай беларускіх гімназій, з творчасцю выдатнага спевака Міхаіла Забэйды-Суміцкага. Тут я ўпершыню пачуў мілагучныя беларускія песні ў выкананні спевака Багдана Андрусішына (Данчыка).

Аднойчы Зоська Верас і Лявон Луцкевіч параілі мне пагаварыць з педсаветам Германавіцкай сярэдняй школы аб стварэнні ў Германавічах музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, жыццё і дзейнасць якога былі цесна звязаны з нашым краем. У час пасяджэння педсавета ў лютым 1983 года было прапанавана ўсяму калектыву настаўнікаў узяцца за збор матэрыялаў для будучага музея. За справу актыўна ўзялася настаўніца рускай мовы і літаратуры Ада Эльеўна Райчонак. Разам з членамі гуртка "Спадчына" яна стварыла гісторыка-краязнаўчы музей у Германавіцкай сярэдняй школе, а крыху пазней – музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, які 1 лютага 1992 года стаў дзяржаўным. У зборы матэрыялаў дапамагалі і члены сям'і Ады Эльеўны, асабліва сын Міхась Райчонак. І вось ужо 20 гадоў музей мастацтва і этнаграфіі паспяхова працуе. Яго наведваюць не толькі вучні і студэнты, жыхары вялікіх гарадоў і райцэнтраў Беларусі, але тут бываюць госці з Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Англіі, Італіі, нават з далёкіх ЗША.

У жніўні 2004 года Ада Эльеўна Райчонак адкрыла ў Германавічах прыватны літаратурна-мастацкі музей, дзе сабраныя карціны сучасных беларускіх мастакоў, якія ўдзельнічалі ў пленэрах "Шляхамі Язэпа Драздовіча", а таксама матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю яе сына Міхася Райчонка. Дзякуючы ініцыятыве і падтрымцы Зоські Верас і Лявона Луцкевіча цяпер у Германавічах працуюць тры музеі.

Усё жыццё Зоські Верас – шчырай працаўніцы на ніве Беларускага Адраджэння – гэта подзвіг вернага служэння свайму народу, бацькаўшчыне, роднаму слову.

Апошнія два гады жыцця Зоські Верас былі вельмі цяжкімі. Яна даўно дрэнна чула. На 97-м годзе жыцця яна пачала слепнуць і паступова страціла ўсякі кантакт з людзьмі і навакольным асяроддзем. Увосень 1989 года дачка з зяцем забралі яе ў сваю гарадскую кватэру, адкуль было прасцей выклікаць урача.

13 мая 1990 года згарэла "Лясная хатка". Прычыну пажару ніхто не высветліў. Зоські Верас пра пажар не сказалі.

Памёрла Зоська Верас 8 кастрычніка 1991 года. Не дажыла крыху да 100 гадоў. Як пісала ў лісце Галіна Войцік, пахаванне Зоські Верас стала сапраўднай маніфестацыяй беларушчыны ў Вільні. Сабралася мноства людзей: сваякі, знаёмыя, прадстаўнікі беларускіх арганізацый ("Сябрына", Таварыства беларускай культуры Літвы, Асацыяцыя беларусістаў Літвы). З Мінска прыехалі пісьменнікі, мастакі, навукоўцы. Было шмат моладзі з Гродна, Брэста, Мінска, Маладзечна.

Пахавалі Зоську Верас на могілках у Панарах, побач з магіламі маці Эміліі Сівіцкай, мужа Антона Войціка і сына Антона Шантыра. Цяпер на гэтых магілах стаіць сціплы помнік з чорнага граніту, з выбітымі прозвішчамі, датамі нараджэння і смерці. Магілу наведваюць сваякі і вучні Віленскай беларускай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны.

Газета "Звязда" змясціла 12 кастрычніка 1991 года такія радкі: "Вільня пабяднела для беларусаў. У ёй не стала Зоські Верас. А нам усім здавалася, што мудры лёс падараваў ёй вечнасць. Спецыяльна пакінуў беларусам гэтага памятлівага экскурсавода ў эпоху нашага мінулага рамантычнага адраджэння. У часы, калі нацыянальная свядомасць была страшэнным крыміналам, яе маленькая "Лясная хатка" ў Вільні прыгвала як неафіцыйны музей беларушчыны. І сцежка ў яго не зарастала".

Адзначаючы 120-годдзе Зоські Верас мы павінны ўспомніць з пашанай і любоўю імёны ўсіх беларускіх адраджэнцаў, якія многа зрабілі для сваёй Радзімы, аднаўлення і захавання яе дзяржаўнасці.

Зоську Верас будуць успамінаць нашчадкі, бо зробленае для народа не забываецца.

# Спяваем, пакуль не прыйшоў бацюшка (альбо ксёндз)...

## Пахавальная песня

**Ой, Божа ж, мой Божа, з высокага неба,**
**Ці чуеш малітву маю?**
**Вазьмі маю грэшную душу да сябе,**
**А цела ў сырую зямлю.**

**Нагарнуць на мяне высоку магілу,**
**Травою яна зарасце.**
**Пасадзяць на яе чырвону каліну,**
**Вясною яна расвіце.**

**І будуць пташкі да яе прылятаці,**
**І будуць спяваць песні.**
**А я не пачую, бо буду ляжаці**
**Ў сырое глыбокай зямлі.**

**Пасцелька глыбока, хацінка маленька**
**І дажа акенца няма.**
**А я адзінокі (-ка), як у полі былінка,**
**Ляжу ў хаціне адзін (адна).**

**Ой, Божа ж мой Божа, які ты прыхільны.**
**Як хочацца жыць у цябе.**
**А смерць забірае, пара ўжо ўхадзіці,**
**Ляжаці ў сырое зямлі.**

**Калісь мае ногі па свету хадзілі,**
**І радасны быў таму час.**
**Калісь мае рукі так цяжка рабілі,**
**А зараз на грудзях ляжаць.**

**Ой, Божа ж, мой Божа, з высокага неба,**
**Ці чуеш малітву маю?**
**Вазьмі маю грэшную душу да сябе,**
**А цела ў сырую зямлю.**

**Уладзімір Скрабатун**

**Нядаўна аўтар гэтых радкоў наведаў Вільню... Звычайна кожная такая паездка заканчваецца сустрэчай з Алесем Адамковічам, якога аўтар ведае досыць даўно.**

Спадар Алесь некалі жыў у Германавічах (Шаркоўшчынскі р-н) ды працаваў там у мясцовым музеі, які размешчаны ў колішнім палацы Шырына. Цяпер жа ў Вільні ён працуе выкладчыкам беларускай мовы ў адной з тамтэйшых ВНУ, ды займаецца навукова-даследчай працай. Выдаў некалькі кнігаў. Апошняе, чым заняўся сп. Алесь – тэма беларускай адукацыі ў 1920-39 гг на тэрыторыі нашага краю, г.зн. Дзісенскага павету, калі ён знаходзіўся ў межах польскай дзяржавы.

Алесь Адамковіч пазазаў мне «Пахавальную песню», якую ён калісь запісаў у сваім Шаркоўшчынскім раёне. Спяваюць яе каля труны з нябожчыкам. І тут не важна, хто памерлы, – праваслаўны ці каталік. Спяваюць «Пахавальную песню» да таго часу, пакуль не прыйшоў святар адпяваць нябожчыка.

Алесь выказаў здагадку, што гэтая песня ў тамтэйшым краі магла захавацца з часоў уніяцтва, бо чамусьці яе прынята спяваць да таго часу, пакуль не прыйшоў бацюшка ці ксёндз.

Ёсць і іншае меркаванне, што «Пахавальная песня» магла быць напісаная кімсьці з мясцовых паэтаў ці нават ксяндзом у пачатку ХХ стагоддзя, калі пачыналася адна з першых спробаў беларусізаваць касцёл. Між тым, у «Пахавальнай песні» звяртае на сябе ўвагу і сама мова, якая не зусім тыповая для нашага рэгіёну, а хутчэй – тыповая для цэнтральнай Беларусі. Але выключаць факт мясцовага паходжання песні мы пакуль не будзем, бо, як сказана было вышэй, яна магла быць апрацаваная мясцовым святаром ці паэтам.

Яшчэ адзін цікавы дакумент паказаў сп. Алесь. Аказваецца, за «польскім часам», пры навучанні рэлігіі ў беларускіх школах, яе мусілі выкладаць на беларускай мове. Так, у Шкунцікаўскай школе, недзе ў 1926 (ці 1927) г выкладчыкам рэлігіі быў прызначаны праваслаўны святар Краскоўскі. Як ні дзіўна, святар адмовіўся быць выкладчыкам і напісаў заяву, маўляў «беларуская мова – малакультурная, пашукайце іншага святара». Вось так! А святар, мяркуючы па прозвішчу, паходзіў, хутчэй за ўсё, з сям'і колішніх уніятаў.


Царква Ўзвышэння Святога Крыжа

# Полацкая епархія адсвяткуе сваё 1020-годдзе

**Мерапрыемствы, прымеркаваныя да памятнай даты, пройдуць у лістападзе.**

Адкрые юбілейныя ўрачыстасці святочнае Набажэнства ў Кафедральным саборы Багаяўлення, дзе для сумеснай малітвы збярэцца ўсё святарства Полацкай епархіі.

У рамках імпрэзы ў Палацы культуры ААТ «Полацак-Шкловалакно» пройдзе праваслаўная духоўна-асветніцкая выстава-кірмаш «Радасць Слова», у Сафійскім саборы адбудзецца выступ калектыва «Дабравест», а на ўрачыстым вечары будуць уручаныя ўзнагароды за духоўнае адраджэнне.

У гонар юбілею ў старажытным Полацку ўпершыню пройдуць XII Рэспубліканскія Свята-Ефрасіннеўскія чытанні, прысвечаныя Слову.

Святкаванне 1020-годдзя Полацкай епархіі завершыцца Падзячным набажэнствам.

*Хімік.інфо*

**Пагадненне аб супрацоўніцтве ў сферы турызму паміж Міністэрствам спорту і турызму Беларусі і Міністэрствам нацыянальнай эканомікі Венгрыі падпісана 26 кастрычніка ў Мінску.**

## Мінспорту Беларусі і Мінэканомікі Венгрыі падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве ў сферы турызму

Як заявіла журналістам пасля падпісання пагаднення намеснік міністра замежных спраў Алена Купчына, дакумент прадугледжвае абмен вопытам, інфармацыяй аб асаблівасцях заканадаўства, статыстычнай і іншай інфармацыяй у сферы турызму. Запланавана каардынацыя дзейнасці ў Сусветнай турысцкай арганізацыі, абмен адукацыйнымі і навучальнымі праграмамі ў турыстычнай сферы.

Пагадненне прадугледжвае стварэнне профільнай рабочай групы па турызме, пасяджэнні якой будуць праводзіцца па меры неабходнасці. Група будзе распрацоўваць перспектыўныя мерапрыемствы па супрацоўніцтве і кантраляваць іх выкананне. Мяркуецца, што гэтую групу ўзначаляць кіраўнікі дэпартаментаў па турызме Мінспорту Беларусі і Мінэканомікі Венгрыі.

Пагадненне разлічана на пяць гадоў з моманту падпісання з правам аўтаматычнага працягу на наступны пяцігадовы перыяд.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН*



## Віншаванкі

### Алега Барысавіча Парфяновіча

**Віншуем з днём нараджэння!**

Няхай жыццё квітнее буйным цветам
І нараджэння дзень прыходзіць зноў і зноў,
А доля няхай дорыць з кожным годам
Здароўе, шчасце і любоў.
Няхай заўсёды Бог аберагае
Ад зла, хваробы і журбы
І ласку шчодра пасылае
Сёння, заўтра і заўжды!



*Жонка, дзеці.*

### Таццяну Расціславаўну Ермаковіч

**Віншуем з юбілеем!**

Вот и грянул юбилей –
Вместе грусть и радость –
Об ушедшем не жалей,
50 - не старость.
Пусть отныне и всегда
Грустью не распяты,
Будут новые года
Радостью богаты.



*Брат Мікалай Паварэнь і ўся яго сям'я.*

**Дарагую хросную**

### Таццяну Расціславаўну Ермаковіч

**Віншуем з юбілеем!**

Пусть будет в жизни каждый миг прекрасен,
И пусть судьба хранит тебя от бед,
И день пусть будет постоянно ясен,
Спокоен сон и радостен рассвет.



*Хрэснік Віктар.*

### Сяргея Міленцьевіча Сталяронка

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Ни капли грусти, ни одной слезы,
Душевного здоровья и богатства.
Пусть в этот день сияет солнце ярче,
А радость жизни пусть закроет тьму.
Здоровье будет лучшим из подарков,
А остальное всё приложится к нему.



*Хрэсніца Ірына і яе сям'я.*

# Адкрылася паляванне на зайца



■ **В.Е. Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

З прыходам лістапада адкрылася паляванне на зайца і шматлікія захопленыя паляўнічыя, не марудзячы, накіраваліся на паляванне. Аднак, далёка не ўсе палююць законна і законнымі спосабамі. Так, 4 лістапада супрацоўнікамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету на тэрыторыі Докшыцкага раёна затрыманы мясцовы жыхар грамадзянін К., які накіроўваўся на паляванне з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбай, без паляўнічай пуцёўкі і дзяржаўнага квітка на права палявання. Складзены адміністрацыйны пратакол за браканьерства, які накіраваны ў раённы суд. Шматлікія паляўнічыя пры паляванні на зайца выкарыстоўваюць кулявыя патроны і патроны, зараджаныя карцечай, што забаронена Правіламі палявання. Затрыманыя супрацоўнікамі інспекцыі грамадзяне, якія парушылі Правілы, прыцягваюцца да адказнасці. Вельмі часта паляўнічыя пры пераездзе з аднаго месца палявання ў іншае не зачахляюць і не разраджаюць зброю, што з'яўляецца грубым парушэннем Правіл палявання, вінаватыя нясуць адміністрацыйную адказнасць. Толькі за два дні палявання супрацоўнікамі інспекцыі выяўлена 4 грубых парушэнні Правіл палявання, усе вінаватыя прыцягнуты да адказнасці. У сувязі з адкрыццём палявання на зайца неабходна яшчэ раз нагадаць тэрміны і спосабы законнага палявання.

З 1 кастрычніка па 30 снежня адкрылася восеньска-зімовае паляванне стрэльбавым загонам, з засад, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі на лася, аленя, кабана, казулю еўрапейскую, з 1 верасня па 31 студзеня дазваляецца паляванне на бабра рачнога, выдру рачную, – стрэльбавым і безружжовым спосабам.

З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня 2013 года дазваляецца паляванне на зайца-беляка, зайца-русака стрэльбавым спосабам з паляўнічымі сабакамі.

З 1 кастрычніка па 31 студзеня ў светлы час сутак дазваляецца здабыча андатры стрэльбавым спосабам.

З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня дазваляецца здабыча куніцы лясной, каменнай, тхара ляснога, норкі амерыканскай, гарнастая, вавёркі. *( У выпадку змены тэрмінаў, спосабаў палявання ўся інфармацыя будзе паведамлена дадаткова).*

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі пераканаўча просяць паляўнічых уважліва вывучаць і выконваць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, каб не стаць мімавольным іх парушальнікам.

Пра ўсе правапарушэнні Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 2-86-70 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.

# Уладальнікамі тытула майстра спорту міжнароднага класу па таэквандо сталі Аляксей Іваноў і Жанна Шошына

■ **Дар'я Міхайлоуская**

Нядаўна прыемная навіна прыйшла ў Шаркоўшчыну. Выхаванцы мясцовай школы таэквандо ўдала выступілі на міжнародным турніры ў Харкаве (Украіна). Аляксей Іваноў заваяваў другое месца ў сваёй вагавай катэгорыі, Жанна Шошына стала пераможцай. Прытым выхаванцы трэнера І. А. Іванова атрымалі тытулы майстроў спорту міжнароднага класу. З гэтай перамогай віншуем таленавітых спартсменаў. Больш падрабязна пра спаборніцтвы расказвае трэнер Ігар Афанасьевіч ІВАНОЎ:

– У г. Харкаве 6-7 кастрычніка прайшоў міжнародны турнір класа «А» па таэквандо. У Еўропе на працягу года турніраў такога класа праводзіцца ўсяго восем: у Англіі, Германіі, Галандыі, Бельгіі, Аўстрыі, Расіі, Іспаніі і Украіне. На такія спаборніцтвы прыязджаюць усе наймацнейшыя спартсмены, у тым ліку і ўдзельнікі алімпійскіх гульняў. Тут яны набіраюць неабходны рэйтынг і "абкатваюцца" перад чэмпіянатам Еўропы і Свету. У складзе нацыянальнай зборнай Беларусі на гэтым прэстыжным турніры выступалі і двое шаркаўчан. У вагавой катэгорыі да 87 кг. за зборную Беларусі праводзіў паядынкі Аляксей Іваноў. У яго актыве сустрэча з расіянінам, дзе Аляксей атрымаў перамогу з лікам 9:3. Затым шаркаўчанін з лікам 24:12 датэрмінова атрымаў перамогу над чэмпіёнам Украіны. У фінале з прызёрам Чэмпіянату Еўропы Вадзімам Белкіным быць на «галаву вышэй» аказалася цяжкавата і судзейскі корпус, які складаўся з чатырох украінцаў, пацішу "сплавіў" перавагу Аляксея. У выніку ў яго сярэбраны кубак турніру. Паўтара года Віцебская школа вышэйшага спартыўнага майстэрства практычна нікуды не вывозіла Аляксея на міжнародныя турніры і ў яго не было спарынговай практыкі з наймацнейшымі еўрапейскімі таэквандаінамі. Толькі пасля пераходу ў Мінскі рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі ў Аляксея з'явілася такая магчымасць, і ўкраінскі турнір паказаў, што ён выходзіць на пік сваёй спартыўнай формы.

Для Жанны Шошынай гэты турнір стаў другім міжнародным сярод дарослых спартсменак. Месяц таму на сваім першым дарослым турніры ў Польшчы Жанна заняла 2-ое месца. Да першага месца не хапіла ледзь-ледзь. Тут сказаўся невялікі летні перапынак у трэніроўках, падчас якога Жанна паступала ў Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Не змагла яна з-за паступлення выступіць і на Чэмпіянаце Еўропы сярод моладзі, затое стала студэнткай 1-га курса прэстыжнай вышэйшай навучальнай установы. А ўжо ў верасні, імкнучыся набраць форму, шаркаўчанка не баялася спарынгаў нават з прадстаўнікамі мужчынскай зборнай Беларусі,ды яшчэ і маючых больш цяжкую вагавую катэгорыю. Харкаўскія спаборніцтвы прадэманстравалі, што гэты экстрым быў не дарэмным. У першым цяжкім паядынку яна ўсё-такі вырвала перамогу ў вельмі моцнай саперніцы. У другой сустрэчы давялося змагацца не толькі з украінскай спартсменкай, але і з украінскім судзейскім корпусам, які ў самым пачатку выставіў тры балы сваёй візаві за недайшоўшы да шлема шаркаўчанкі кругавы ўдар. За абурэнне секунданта Жанны яе саперніцы дадалі паловy бала, за паўторную апеляцыю да сумленнасці суддзяў дадалі яшчэ бал. Але трэба ведаць характар Жанны. Такі расклад моцна раззадорыў яе і да канца паядынку Шошына выйшла на роўны лік, а ў дадатковы час да першага «залатога» пераможнага бала Жанна гэты шанц не выпусціла. У фінал выйшла яшчэ адна моцная беларуская спартсменка. Тут суддзі былі нейтральныя і фінішны гонг зафіксаваў лік 18:8 на карысць Жанны. У сілу склаўшагася рытуалу, увесь наступны тыдзень хадзіў на працу ў кашулі то ружовага колеру, сімвалізуючага першае месца, то сіняга — у залік другога месца Аляксея. А калі сур'ёзна, то мы можам канстатаваць факт з'яўлення ў нашай роднай Шаркаўшчыне першых двух спартсменаў — уладальнікаў тытула майстра спорту міжнароднага класу па таэквандо, якога былі ўдастоены на турніры Жанна і Аляксей. Яны сапраўды заслужылі гэта высокае званне. Наперадзе ў іх яшчэ шэраг моцных міжнародных турніраў, а праз некалькі месяцаў і Чэмпіянат Свету ў Мексіцы. Давайце павіншуем нашых лепшых шаркаўшчынскіх спартсменаў з высокім званнем і пажадаем ім новых перамог у гонар роднага краю!

*Крыніца: Аляксандр БАРЫЛА, http://klich.by*



**Аляксей Іваноў.**



**Жанна Шошына.**

